# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №18 (145)
СНЕЖАНЬ 2013 ГОДА


**"Покліч волі" ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

СЛОВА НА КАЛЯДЫ

# "ВЫНІКІ ІХ «ДАБРАЧЫННАЙ» ДЗЕЙНАСЦІ НАМ ДОБРА ВЯДОМЫЯ".

**З нагоды свята Божага Нараджэння Апостальскі візітатар для беларусаў грэка-католікаў замежжа айцец Аляксандар Надсан звярнуўся да вернікаў. Ягоны зварот прыводзіць " Радыё Свабоды".**

«Як гляну на неба, твор рук Тваіх, на месяц і зоркі, якія Ты стварыў, дык хто ёсць чалавек, што Ты памятаеш пра яго, і сын чалавечы, што Ты пра яго дбаеш?» (Пс 8:4-5)

Гэтыя словы псалма добра перадаюць пачуцці чалавека, які, узіраючыся на веліч Божага тварэння, стараецца зразумець, чаму Бог прыдае так шмат увагі такой нязначнай істоце, як чалавек.

Падсвядома аўтар адчувае, што ў плане Божага тварэння чалавек займае асаблівае, хоць яшчэ не зусім для яго зразумелае, месца.

Гэты плян Божы знайшоў сваё завяршэнне ў падзеі, памяць якой мы святкуем і пра якую святы Павал сказаў: «Калі прыйшла поўня часу, Бог паслаў Сына Свайго, народжанага ад Дзевы, народжанага пад законам, каб мы маглі атрымаць усынаўленне...» (Гал 4:4-5).

Іншымі словамі, Госпад і Бог наш Ісус Хрыстос стаў чалавекам, адным з нас, каб даць нам магчымасць стаць дзецьмі Божымі, удзельнікамі Боскага жыцця.

Нам давялося бачыць і дасведчыць розных людзкіх спробаў зрабіць нас «шчаслівымі», не пытаючыся нашай згоды. Нашыя «дабрачынцы» думаюць, што ведаюць лепш за нас, што нам трэба для шчасця. І калі мы зь імі не згаджаемся, яны ня супраць ужыць сілу, каб нас, неразумных, ашчасьлівіць. Вынікі іх «дабрачыннай» дзейнасці нам добра вядомыя.

Не так Бог. Таму Ён з уласнай волі прыйшоў на свет, як малое бездапаможнае дзіцятка, якое ня толькі не пагражала нікому, але мела патрэбу ў нашай дапамозе і спагадзе. Пасля, у дарослым веку, Ён адмовіцца ад ужываньня сілы і не будзе абяцаць «неадкладнага шчасця», але скажа: «Прыйдзіце да Мяне, усе струджаныя і абцяжараныя, і Я супакою вас. Вазьміце ярмо маё на сябе і навучыцеся ад Мяне, бо я ціхі і пакорнага сэрца, і знойдзеце супакой для душаў вашых. Бо ярмо маё прыемнае, і цяжар мой лёгкі» (Мц 11:28-30). Іншымі словамі, Ён абяцаў тым, што пайшлі за ім, не вызваленне ад цяжкасцяў, але даць сілу пераносіць іх.

Вось гэтай сілы духоўнай, каб перанесці цяжкасці жыццёвыя і не заламацца, хай Госпад і Бог наш Ісус Хрыстос, чыё нараджэнне ў целе радасна святкуем, дасьць нам усім.

**а. Аляксандар Надсан**

***Партал твайго раёна: http://vicebskreg.by***

ЭКАНОМІКА

# ПАКАЗЧЫКІ РАЗВІЦЦЯ ЦІ ЗАНЯПАДУ?

**На сайце Нацыянальнага статыстычнага камітэту РБ (http://belstat.gov.by/) пададзены асноўныя эканамічныя паказчыкі развіцця Віцебскага раёна за студзень – кастрычнік 2013 года у параўнанні з аналагічным перыядам 2012 года. Прааналізуеем частку пададзенай інфармацыі.**

На вялікі жаль колькасць насельніцтва ў раёне працягваецца няўхільна скарачацца (на 283 чалавекі за год), што ў сваю чаргу хоцьма-няхоцьма мусіць цягнуць за сабой цэлы шэраг наступстваў у агра-прамысловым комплексе, дзе гэтая тэндэнцыя назіраецца яшчэ ў большых памерах.

За год колькасць насельніцтва, занятага ў эканоміцы скарацілася ажно на 1003 працоўных, а гэта амаль 6% ад агульнай колькасці працаўнікоў. Пры гэтым колькасць беспрацоўных , зарэгістраваных у органах па труду, занятасці і сацыяльнай абароне склала ўсяго 137 чалавек (на 12 меней, чым летась). Куды падзеліся амаль тысяча рабочых і служачых сайт не паведамляе, але высновы можна зрабіць сыходзячы з агульных тэндэнцый, якія назіраюцца ў эканоміцы краіны. Невялікія заробкі, нездаровы клімат у працоўных калектывах, сацыяльнае закабаленне, беспраўе і адсутнасць перспекты-ваў падштурхоўваюць найбольш актыўную частку працаздольнага насельніцтва шукаць долі ў суседніх краінах, дзе іхні труд ацэніваецца куды вышэй.

Наступны статыстычны паказчык мусіць шакаваць любога: нягледзячы на заўважны адток кваліфікаваных кадраў аб'ём прамысловай вытворчасці ў раёне за год вырас больш як … у 9 разоў і дасягнуў 956,5 мільярдаў рублёў! Нічога падобнага ў іншых рэгіёнах Беларусі няма. І калі гэта не памылка, то досвед і дасягненне Віцебскага раёну мусіў бы вывучацца і прапагандавацца. Аднак пра тое, што гэта найхутчэй звычайная неахайнасць аператара сайта, а не эканамічнае дасягненне, сведчыць індэкс прамысловай вытворчасці, які у параўнанні з мінулагоднім знізіўся на 30 адсоткаў.

Знізілася і ўдзельная вага адгружанай інавацыйнай прадукцыі ў агульным аб'ёме адгружанай прадукцыі з 68,3 да 43,8 адсоткаў.

Затое запасы гатовай прадукцыі на складах прамысловых прадпрыемстваў павялічыліся з 32,5 да 62,7 мільярдаў рублёў, што таксама абвяргае фантастычны рост аб'ёмаў прамысловай вытворчасці.

У знешнім гандлі павялічылася адмоўнае сальда з -8 119,3 да -11 546,9 тыс. дал. ЗША.

Удзельная вага стратных арганізацый, у агульнай колькасці даследаваных арганізацый павялічылася з 10,7% да 17,9 %.

Фінансавыя страты за аналізуемы перыяд склалі 926 мільёнаў рублёў.

Але тым ні менш нягледзячы на несуцешныя эканамічныя паказчыкі намінальная налічаная сярэднемесячная заработная плата павялічылася з 3 мільёнаў 120,6 тыс. рублёў да 4 мільёнаў 354,8 тыс.рублёў.

Вось такая тут статыстыка і эканоміка: адна - няпоўная і памылковая, другая – залежная ад эканамічных паказчыкаў, а ад палітычнай мэтазгоднасці. І пакуль суседняя дзяржава дае на гэта нафтавыя грошы ніякага прагрэсу і здаровага сэнсу тут не будзе.

**Якаў Дрозд**




"ПЕРАГІБЫ НА МЕСЦАХ"

# ВІЦЕБСКІХ НАСТАЎНІКАЎ ГОНЯЦЬ НА ПАРАД

**Усім трэба быць у строях, а дзе іх узяць - незразумела. Пра гэта напісаў адзін з настаўнікаў віцебскай гімназіі. Выкладчык здзіўлены, чаму яго абавязваюць удзельнічаць у гарадскім парадзе Дзядоў Марозаў, і пры гэтым быць трэба абавязкова ў строі, піша onliner.by.**

«Парад будзе - 20.12.2013. Парад - гэта супер, але да яго, як у нас заведзена, далучаюць сціжму людзей, якія не маюць і не жадаюць мець да яго аніякага дачынення. Так і выкладчыкаў гімназіі абавязваюць туды схадзіць. Быць трэба ў строі... Дзе вы яго возьмеце, нікога не хвалюе. Не можаце пайсці - пішыце тлумачальную, у якой падрабязна выкладзіце прычыну. Калі прычыну уважаць за несур'ёзную, то абавяжуць ісці. Адмаўляецеся? Атрымаеце вымову. Вядома, яна неабавязкова будзе за гэта, але выдумаць, за што, - справа нескладаная. А потым міністры кажуць, што выкладчыкі робяць толькі сваю працу і не больш за тое», - кажа ён.

Каб разабрацца ў сітуацыі, журналісты датэлефанаваліся ў аддзел ідэалогіі, які займаецца арганізацыяй, рэжысурай і канцэпцыяй правядзення парада.

- Вядома, усе ідуць, увесь горад

*(працяг на стар. 2)*

“ПЕРАГІБЫ НА МЕСЦАХ”

(пачатак на стар. 1)

святкуе. Гэта традыцыя, якой шмат гадоў, - патлумачыла начальніца аддзела Наталля Аляксееўна.

- А дзе ўзяць такую колькасць строяў?

- Дык усе ж дзесьці бяруць, шукаюць ва ўстановах культуры і адукацыі. Хто ім даручыў, хай з тымі і разбіраюцца. Калі я арганізоўваю сваіх прадстаўнікоў у калону, то бяру строі ва ўстанове культуры і раздаю людзям. Яны іх апранаюць і радасна ідуць на парад. На такіх парадах мы адчуваем эмацыянальнае яднанне, ахопленыя агульнай ідэяй. Калі хтосьці не хоча ісці і яму гэта не ў радасць, то яны спакойна могуць сказаць сваёй адміністрацыі: «Я займаю такую пазіцыю. Ну не хочацца мне ісці», - і не пайсці. Нікога не звольняць.

Так, у гэтым ёсць пэўныя цяжкасці: трэба адарвацца ад хатніх спраў, паглядзець, ці ёсць строй, ці папрасіць у арганізатараў і выйсці на гэты парад. Але паверце, потым людзі бясконца шчаслівыя і вясёлыя, бо ёсць адчуванне свята. Вось у мяне дома ёсць самы звычайны строй Дзеда Мароза. Я купіла яго за 130 тыс. Настаўнікі могуць яго не купляць, а папрасіць у сяброў ці ў мяне. Для людзей майго пакалення кожнае мерапрыемства, звязанае з працоўным калектывам, мае форму не толькі даручэння, але і яднання. Калі б мне мая загадчыца сказала, што трэба ўдзельнічаць у парадзе, я на нітку выцягнулася б і знайшла б гэты строй, бо савецкі чалавек. А моладзь сёння, на жаль, думае прагматычна.

**http://charter97.org**

ЧУТКІ

# ЧУТКІ ПРА МЯДЗВЕДЗЯ-ШАТУНА РАЗВЕЯЛІ

**Спачатку ў СМІ зьявілася інфармацыя, што мядзведзь-шатун блукае ў ваколіцах пасёлка Сураж. Нібыта звера, які стаяў на задніх лапах, заўважыў на ўскрайку лесу ляснік Суражскага лясніцтва Віталь Літвінчук. Затым мядзведзь, нібыта, рушыў у бок Суража , а жыхары бачылі клышаногага на сваіх гародах і ў садзе.**

Так, часам мядзведзь не паспявае за восень як след адкарміцца, таму сярод зімы прачынаецца і пачынае блукаць у пошуках ежы.

Але, як высветлілася, клышаногага ў гэтых месцах бачылі не цяпер, а ўлетку .

Журналісты сайту news.tut.by патэлефанавалі лесніку Суражскага лясніцтва Віталю Ліцвінчуку, які нібыта бачыў мядзведзя, але звязацца з ім не ўдалося, бо ён знаходзіўся ў адпачынку.

Затое, гэтую гісторыю TUT.BY пракаментаваў яго начальнік, ляснічы Суражскага лясгаса Аляксандр Зайцаў: "У апошні раз мядзведзя ў нашых месцах бачылі не цяпер, а ўлетку, дзесьці ў ліпені. Ніякія шатуны ў нашых ваколіцах не ходзяць. Справа ў тым, што людзі на гэтую тэму любяць пераказваць байкі, прычым старыя, папярэдніх гадоў. Мядзведзі ў нашым лясгасе сустракаюцца ў апошнія гадоў 10, але ў цёплы час года. Іх бачылі ў садах, куды яны залазілі па яблыкі. А зараз магу запэўніць, што мядзведзь, які трапіў у газеты, спіць у бярлозе".

**Ян Сведка па матэрыядах СМІ**

ІНВЕСТЫЦЫІ

# НЕЗВЫЧАЙНЫ ПАЛІГОН ПАД ВІЦЕБСКАМ

**Палігон і лабараторыю па выпрабаванні комплексаў дыстанцыйнага кіравання зброяй , а таксама адпрацоўкі рашэнняў у галіне альтэрнатыўных крыніц энергіі плануецца стварыць пад Віцебскам на паўночны захад ад вёскі Бернікаў Воранаўскага сельсавета.**

Тэндэр на стварэнне праектнай дакументацыі гэтага аб'екта размясціла ААТ “Канструктарскае бюро" Дысплей", а рашэнне аб яго стварэнні прынята Віцебскім аблвыканкамам 12 верасні 2013 года. Арыенціровачны кошт закупкі паводле тэхнічнага задання складае 1 000 000 000 рублёў.

Пад лабараторыю павінны рэканструяваць памяшканне былых навучальных класаў. У будынак павінны быць убудаваныя новыя вокны ПВХ з элементамі сонечных батарэй, прычым, найбольшая іх колькасць размесціцца на паўднёвым баку і мінімум - на паўночным. Таксама неабходн пабудаваць скатны дах, здольны вытрымаць устаноўку сонечных калектараў і сонечных панэляў агульнай масай каля 1,5 тоны.

У памяшканні павінна быць уладкованая прытокава-выцяжная вентыляцыя з кандыцыянерам, які мае гібрыдны прывад ад энергіі ветру. Ацяпленне плануецца вадзяное з цёплых падлогай.

Тэрыторыя ўчастка павінна быць абгароджана, і абсталявана аўтаматычнымі варотамі. На яго тэрыторыі з перасечанай мясцовасцю размесціцца палігон плошчай 1,5 гектара для хадавых выпрабаванняў дыстанцыйна-кіраваных рухомых аб'ектаў з оптыка-электроннымі сістэмамі прыцэльвання і навігацыі.

Праектная дакументацыя павінна быць распрацавана да 31 ліпеня 2014 года. Фінансуецца закупка з уласных сродкаў прадпрыемства.

**http://news.vitebsk.cc**

# НОВАЯ ЛІНІЯ ДЛЯ ПАРАШКОЎ

**У пасёлку Руба на ААТ « Даламіт » завяршаецца ўстаноўка чэшскай лініі. Гэты інвестыцыйны праект дасць магчымасць наладзіць вытворчасць даламітавых парашкоў для шкляной прамысловасці. Новая лінія цалкам аўтаматызаваная.**

Прадпрыемства ўжо выпускала шкляны парашок, але ён падыходзіў толькі для вырабу тары. Сёння перад «Даламітам» пастаўлены новыя задачы. З пачаткам рэалізацыі ў ААТ «Гомельшкло» праекту па выпуску высакаякаснага паліраванага ліставога шкла паўстала неабходнасць у адпаведнай сыравіне.

Увынікуправедзенагатэндэру была абраная сучасная чэшская тэхналагічная лінія, якая павінна забяспечыць больш высокую якасць выпускаемай прадукцыі. Галоўная перавага ўкаранёнай тэхналогіі - у паляпшэнні зерневага складу парашкоў і ачысткі ад староннніх дамешкаў.

Як адзначае галоўны тэхнолаг прадпрыемства Леанід Ермаковіч, па сваіх прыродных характарыстыках даламіт, які здабываецца ў Рубе, адрозніваецца павышаным утрыманнем жалеза і іншых староннніх дамешкаў. Новая лінія дазволіць максімальна ачысціць сыравіну, знізіць утрыманне апаратнага жалеза і іншых нераставаральных уключэнняў (гліна, крэмній) ў гатовым прадукце. Сучасная тэхналогія прадугледжвае папярэдняе драбненне і прамываннедаламіту,шматлікія магнітныя сепаратары, якія ўлоўліваюць усе непатрэбныя дамешкі. У канчатковым варыянце чакаецца атрыманне шклянога парашка больш высокай якасці.

Для ўсталявання абсталявання папярэдне дэмантавалі адну са старых тэхналагічных ліній, у будынку зрабілі капітальны рамонт, замянілі дах, вокны, зрабілі ўнутраныя аздобныя працы. Рэалізацыя праекта ажыццяўляецца на грошы замежнага крэдыту, інавацыйнага фонду Міністэрства прамысловасці Беларусі і на ўласныя сродкі прадпрыемства.

На дадзены момант на "Даламіце" працуюць шэф - інжынеры з Чэхіі. Да канца года плануецца завяршыць усе будаўнічыя і мантажныя работы, а ў першым квартале 2014-га - вырабіць наладку і пуск лініі , атрымаць доследную партыю. А ў канчатковым выніку дасягнуць праектнай магутнасці вытворчасці - да 140 тысяч тон шклянога парашка ў год.

Хоць асноўны від прадукцыі – даламітавая мука, якая выраблецца пераважна для патрэб айчыннага рынку, тут вядзецца праца па атрыманні міжнародных сертыфікатаў, што дазволіць павялічыць экспарт. Так, у лістападзе было падоўжана дзеянне еўрапейскага сертыфікату якасці на мінеральны парашок для асфальтабетонных сумесяў, які забяспечвае працяглую службу дарожнага палатна.

Дадзены прадукт пастаўляецца ў краіны Балтыі і СНД, таксама выкарыстоўваецца беларускімі дарожнікамі. У гэтым годзе заявілі на адпаведнасць еўрапейскім стандартам друзава - пяшчаную сумесь, якая пакуль выпускалася толькі для патрэбаў унутранага рынку. Цікавасць да навінкі праявілі літоўскі спажывец, які плануе набыць 100 тысяч тон прадукцыі. У Прыбалтыку ўжо паступіла доследная партыя, на дадзены момант заказчыкам ажыццяўляецца яе апрабацыя, сумесна з вытворцам ідзе карэктоўка тэхналогіі.

**Паводле: http://vitvesti.by**

ЗДАРЭННІ

# КРАДЗЁЖ БУДМАТЭРЫЯЛАЎ

**Як паведамляе сайт УУС Віцебскага аблвыканкама, 7 снежня з ахоўнай тэрыторыі будаўнічага аб'екта па рэканструкцыі малочна-таварнай фермы ў в. Мазалава быў здзейснены крадзёж будматэрыялаў.**

7 снежня ў 10гадзінаў 40 хвілінаў у Віцебскі РАУС ад адміністрацыі будаўнічага прадпрыемства паступіла паведамленне, што ў ноч на 7 снежня неўсталяваны злачынец з тэрыторыі будаўнічага аб'екта па рэканструкцыі малочна -таварнай фермы ў вёсцы Мазалава здзейсніў крадзёж будматэрыялаў.

Шкода склала 2,6 млн. рублёў. САГ РАУС устаноўлена, што злачынства здзейсніў непрацуючы мясцовы жыхар 1962 нараджэння.10 снежня АСК ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 1 арт. 205 КК .

**http://uvd.vitebsk.gov.by**

# ПРЫЧЫНА ПАЖАРУ ВЫСВЯТЛЯЕЦЦА

**Крыху пазней ў 14 гадзінаў 55 хвілінаў у ЦАУ УМНС паступіла паведамленне пра пажар дома ў в. Пракуды Віцебскага раёна.**

Пасля прыбыцця да месца выкліку падраздзяленняў МНС назіралася адкрытае гарэнне веранды дома, агонь перакінуўся на дах. Гаспадыня дома 1965 г.н. на момант пажару знаходзілася ў доме з унучкай 2003 г.н., дом пакінулі самастойна, ніхто не пацярпеў.

У выніку пажару ў доме знішчана маёмасць, пашкоджаны столевае перакрыцце, сцены, дах. Дом для далейшага пражывання не прыдатны.

**Ян Сведка**

# КРАДЗЕЖ ЗДЗЕЙСНІЎ НЕПРАЦУЮЧЫ

**Паводле паведамлення прэс-службы УУС Віцебскага аблвыканкама, у в. Копці Віцебскага раёна абакралі сталовую. 29 лістапада ў начны час невядомы абясточыў аўтаномную сігналізацыю, разбіў аконнае шкло і пранік у будынак сталовай.**

Злодзей скраў прадукты харчавання , спіртовыя напоі , цыгарэты на суму 6,1 мільёна рублёў.

Папярэднім следствам устаноўлена , што злачынства здзейсніў непрацуючы мясцовы жыхар 1984 года нараджэння , раней судзімы за махлярства.

Па дадзеным факце 3 снежня АСК ўзбуджаная крымінальная справа па частцы 2 артыкула 205 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь .

**Ян Сведка**

## АБ’ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч Волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Покліч Волі».*

*Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.*

ДАТА

# 16 СНЕЖНЯ НАРАДЗІЎСЯ СЯРГЕЙ ЗАКОННІКАЎ

*Не думай, чалавек, што ты забыты*
*У гэтым сьвеце, дзе хапае зла,*
*Што доля адвярнулася нібыта,*
*Ці зноў бачком у нечым абышла.*

*Не думай, што твой плён – пусты і марны,*
*І можна кінуць рупнасьці кайло.*
*Глядзі, як ранкам у нябёсах хмарных*
*Чароўнай кветкай сонца расьцьвіло.*

*За намі наглядаюць вочы Бога,*
*Яны заўжды не скупяцца сьвятлом.*
*Не думай, што ў тупік вядзе дарога,*
*Што ўсё ў быцьці людзей пайшло на злом.*

*Пакуль яшчэ прадвесьнікі не трубяць...*
*Жыві спакойна на сваёй зямлі,*
*Не думай, што цябе ніхто не любіць,*
*Лепш сам любоў да бліжняга сьпялі.*

АКТУАЛЬНАЯ ТЭМА

# «... Ў БЕЛАРУСІ БУДЗЕ МАЙДАН»

**«Салідарнасць» разузнала, что думают о пошлине на авто Лявон Вольский, Александр Солодуха, водитель маршрутки и читатель «СБ».**

**Предприниматель: «Армия чиновников сожрет эти деньги и не подавится»**

Предприниматель из Солигорска Павел считает пошлину на авто несправедливой.

*— Министр финансов Харковец кивает на другие страны, мол, там тоже такой налог есть. Так в других странах люди не платят такие деньги за продукты и одежду, как в Беларуси! Если денег в бюджете нет – так и скажи, а не езди людям по ушам.*

Бизнесмен уверен, поступления от пошлин на авто «армия чиновников сожрет и не подавится, а дороги лучше не станут».

**Водитель маршрутки: «Людиперестануттехосмотр проходить. Дешевле будет заплатить штраф»**

*— Чтоб их раком поставило с этой пошлиной, — это самое ласковое ругательство из уст водителя маршрутки Слуцк-Минск в ответ на просьбу журналиста дать оценку новому законопроекту. — Вы же понимаете, что это двойное налогообложение. У нас ведь дороги платные!*

По мнению водителя, вводить пошлину на авто несправедливо.

*— Кто-то, как я, целый день за рулем, а кто-то два-три раза в год выедет, чтобы техосмотр пройти и тоже должен платить. Я вот думаю, люди перестанут техосмотр проходить. Дешевле будет заплатить штраф, —предположил собеседник.*

Водитель частной маршрутки прогнозирует рост цен на билеты, но считает, что люди не откажутся от поездок.

*— Я не знаю, что надо сделать, чтобы наш народ начал протестовать и доказывать власти свою позицию, — рассуждает он. — Белорусы живут по принципу «моя хата с краю».*

**Александр Солодуха: «У меня водитель»**

В свое время активно поддержавший налог на тунеядство Александр Солодуха, услышав о принятой депутатами пошлине на авто, скороговоркой выпалил:

*— Я сам за рулем не езжу. У меня водитель. Я живу моим концертом на «Минск-Арене» 8 марта. Мне некогда…*

После этой речи король белорусской эстрады отключился.

**Лявон Вольскі: «Не перастаю здзіўляцца бясконцаму ідыятызму ўлады»**

А вось Лявон Вольскі не стаў хаваць сваё меркаванне аб якая ўводзіцца пошліне.

*- Народ пачынаюць біць па самых балючых месцах. Бо машына, тэлефонён, тэлевізар - у нашым грамадстве, Дзе спажыванне прыроўненае ды рэлігіі - гэтя святое. Таму Яшчэ пара такіх законаў - І Будзе Майдан І Рэвалюцыя. Асабіста я Пакула не ведаю, як рэагаваць на гэты абсурд. Думаю. І ўсё ня перастаю здзіўляцца бясконцаму ідыятызму ўлады.*

Аднак, як у выніку павядуць сябе беларусы? Як вядома, нямы плаціць двойчы.

*(скарочана)*

**Таццяна Гусева**
**gazetaby.com/cont/art.php**

НАША ЎЛАДА

# ВЫРАТАВАЛЬНАЯ ЗНАХОДКА

**Што трэба рабіць, калі сытуацыя ў эканоміцы дрэнная, загады прэзыдэнта не выконваюцца, народ незадаволены, а давер да ўлады падае? Правільна, трэба рэгулярна праводзіць вялікія нарады.**

Нарэшце знойдзеная «палачка-выручалачка», з дапамогай якой можна вырашыць усе згаданыя праблемы. Гэта ж проста, як усё геніяльнае. І як гэта Лукашэнка раней не дадумаўся да такога шыкоўнага выйсьця, нават дзіўна.

Кіраўнік дзяржавы зрабіў рацыянальную выснову, што народ можа дараваць лідэру шмат, але толькі не бязьдзейнасьць. Вось прыклады ад адваротнага дае **Віктар Януковіч**. Ён больш за тыдзень маўчаў, ніяк не тлумачыў адмову ад падпісаньня Ўкраінай дамовы аб асацыяцыі на Віленскім саміце. Потым некалькі дзён маўчаў пасьля зьбіцьця «Беркутам» людзей на Майдане. І ўкраінцы ня могуць зразумець: у іх ёсьць прэзыдэнт, ці яго няма.

Лукашэнка дэманструе тым большую актыўнасьць, чым горшыя справы ў краіне. Няхай і вынікаў асаблівых няма, але народ бачыць: ён жа стараецца.

Праблема ня толькі ў тым, што краіна ўступіла ў крызіс кіравальнасьці. Горш за тое, гэта пачынае бачыць насельніцтва. Усе пляны і заданьні, якія раздае кіраўнік дзяржавы, не выконваюцца. Самае страшнае для аўтарытарнага лідэра — чыноўнікі перастаюць яго баяцца. Найлепшая ілюстрацыя гэтай тэзы — сытуацыя ў дрэваапрацоўцы.

Адзін з элемэнтаў гэтага крызісу быў прадэманстраваны на нарадзе ў аўторак. «Мяне інфармуюць, што пасьпяховыя кіраўнікі прадпрыемстваў ня хочуць ісьці ва ўладу... Высокапастаўленая пасада, як мне дакладваюць, некаторымі ўспрымаецца як дадатковая нагрузка і крыніца падвышанай небясьпекі», — сказаў Лукашэнка. Гэтую сытуацыю праілюстраваў кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта **Андрэй Кабякоў**: «У рэзэрве на пасаду намесьніка міністра сельскай гаспадаркі і харчаваньня было тры кандыдатуры. Аднак ад прызначэньня ўсе яны па той ці іншай прычыне адмовіліся. У выніку быў прызначаны першы намесьнік старшыні Барысаўскага райвыканкама... Амаль два гады пустуе крэсла намесьніка міністра эканомікі. Доўгі час вакантныя пасады намесьнікаў міністраў архітэктуры і будаўніцтва, спорту і турызму». Паводле слоў Кабякова, яшчэ складаней сытуацыя на рэгіянальным узроўні. Напрыклад, пры падборы кандыдатаў на пасаду першага намесьніка старшыні начальніка ўпраўленьня сельскай гаспадаркі і харчаваньня Крупскага райвыканкама адмовілася дзевяць кіраўнікоў сельгасарганізацый ня толькі зь Менскай, але і зь Берасьцейскай і Гарадзенскай абласьцей.

Высокапастаўленая пасада, як мне дакладваюць, некаторымі ўспрымаецца як дадатковая нагрузка і крыніца падвышанай небясьпекі

Калі людзі ня хочуць быць начальнікамі — гэта відавочная прыкмета крызісу сыстэмы. Так было за апошнімі часамі існаваньня СССР: калі ніхто не хацеў займаць пасаду партыйных кіраўнікоў, знайсьці кандыдатуру на пасаду першага сакратара райкама КПСС было вялікай праблемай.

Гэта наўпрост адбіваецца на якасьці кіраваньня. Калі намесьнікам міністра сельскай гаспадаркі прызначаюць намесьніка старшыні райвыканкама, дык самі разумееце, які будзе эфэкт. Гэта як напярэдадні вайны у СССР лейтэнантаў прызначалі кіраваць палкамі. Усім вядома, што атрымалася з таго экспэрымэнту.

Лукашэнка разумее, што трэба нешта рабіць. Ладзіць рэформы небясьпечна. Трэба, лічыць ён, неяк прымусіць працаваць гэтую сыстэму. Як? Усё, што робіць беларускі лідэр, не выходзіць за межы ягонага ўласнага жыцьцёвага досьведу. І ён узгадаў, як за савецкім часам рэгулярна праводзілі партыйна-гаспадарчыя актывы. Там выступалі высокія начальнікі, тлумачылі, як працаваць, пагражалі нядобрасумленным кіраўнікам. Вось Лукашэнка і спрабуе паўтарыць той досьвед.

Такія дырэктыўныя выступы прэзыдэнта з указаньнямі, установкамі, разносамі і публічнымі прыніжэньнямі чыноўнікаў незразумелыя і непатрэбныя ў нармальнай дэмакратычнай краіне. Яны неэфэктыўныя, паколькі неэфэктыўная сама сыстэма. Але ў межах існай сыстэмы яны зьяўляюцца неабходным элемэнтам яе функцыянаваньня. Калі адсутнічаюць эканамічныя стымулы, дык іх трэба кампэнсаваць прымусам. Сталінскія рэпрэсіі супраць кіроўных кадраў часткова выконвалі ролю такога прымусу. Бо калі няма жорсткага ціску зь вяршыні адміністратыўнай піраміды, дык сыстэма загнівае. Што паказаў брэжнеўскі застой. Лукашэнка гэта інтуітыўна адчувае, таму ўвесь час і цісьне, пужае. Яму здаецца, што яшчэ адна нарада — і сыстэма запрацуе. Шчасьлівыя тыя, хто вераць, бо іх царства нябеснае.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# ЗНІШЧЭННЕ ЛІСТОЎ СТАТКЕВІЧУ

**Адміністрацыя магілёўскай турмы лічыць законным знішчэнне лістоў палітвязню.**

Гарадоцкі актывіст **Леанід Гаравы** атрымаў адказ ад начальніка турмы А. В. Дзмітрава на сваю скаргу, якую ён накіроўваў у Дэпартамент выканання пакаранняў па Магілёўскай вобласці. Ён патрабаваў тлумачэнняў, чаму яго ліст не дайшоў да палітвязня Мікалая Статкевіча, піша ПЦ «Вясна». *Але адказ атрымаў ад тых на каго скардзіўся.*

*«У адказе з турмы напісана: «парушэнняў супрацоўнікамі турмы№4парадкуздабывання накіраванага Вамі ліста не ўстаноўлена». І ўсё... Не, каб прымаць меры для поўнага, аб'ектыўнага, усебаковага і своечасовага разгляду скаргаў, прымаць абгрунтаваныя рашэнні. Хоць - чаго здзіўляцца? Скаргу разглядалі тыя, на каго я ўласна і скардзіўся. Куды пісаць далей? У Дэпартамент выканання пакаранняў МУС у Менск ці ў пракуратуру Магілёва? Ці ў дзяржкантроль?»* - разважае **Леанід Гаравы, сябра БСДП (Грамада) і актывіст руху «За Свабоду».**

Ён ліступецца з многімі палітвязнямі, але ў адказ на адзін са сваіх апошніх лістоў Гаравы атрымаў ад Мікалая Статкевіча паведамленне, што гэты яго ліст не прайшоў цэнзуру. У паштоўцы ад **Статкевіча** было напісана: *«Атрымаў пусты канверт ад вашага ліста з пазметкай цэнзуры. Значыць, ваш ліст быў вельмі добрым:). Дзякуй за падтрымку. Поспехаў у вашых справах!»*

Леанід Гаравы лічыць, што гэта неабгрунтаванае абмежаванне права на ліставанне палітвязня Мікалая Статкевіча.

Адказ на сваю скаргу на неправамерныя дзеянні службовых асоб магілёўскай турмы №4 актывіст лічыць звычайнай адпіскай і збіраецца скардзіцца ў вышэйшыя структуры.

**www.charter97.org/be**

ГАСПАДАР СЛОВА

# НАЕЛСЯ ЛИ НАКОНЕЦ ЛУКАШЕНКО ПРЕЗИДЕНТСТВА

**Если Лукашенко говорит, что президентства уже наелся, значит, сто процентов будет участвовать в следующих выборах.**

*«В последнее время опять мне начинают подбрасывать вопросы с выборами. Я не напрягаюсь по этому вопросу, как некоторым кажется. И пытаться меня припереть к стенке выборами... Я уже президентства наелся, если уж на то пошло»*, — заявил Александр Лукашенко 10 декабря на республиканском совещании по решению проблем строительной отрасли и совершенствованию работы с руководящими кадрами.

*«Изберут меня люди или не изберут — поверьте, это будет зависеть не только от вас. Если я еще буду участвовать в этих президентских выборах. Это только Господу известно, еще до них надо дожить. Человек ходит-ходит, а завтра и ходить перестает. Поэтому всякое может быть»*, — предположил официальный лидер.




Всякое может быть — это точно. И дороги бывают скользкие, и самолеты до взлетно-посадочной полосы не дотягивают, да и элементарный инфаркт у мужчин в таком возрасте — дело обычное. Но это все гипотетически. Реальность же такова, что основным претендентом на президентских выборах 2015 года будет Лукашенко. Что бы там Александр Григорьевич не говорил!

А о туманности своих перспектив накануне очередной избирательной кампании Лукашенко говорит постоянно. Красноречия официальному лидеру не занимать, но в отношении собственного президентского опыта Лукашенко с завидной регулярностью использует один и тот же эпитет — **«наелся»**.

*«Я восемь лет — президент. Поверьте, я уже власти наелся столько, что вам и не снилось»*. Так Александр Лукашенко говорил **9 декабря 2002 года** в интервью программе «Сегодня» телеканала НТВ.

*«Я очень часто уже начинаю оправдываться, даже перед высокопоставленными чиновниками России. Я им так говорю: дорогие мои, родные, я наелся власти, мне шапка Мономаха не нужна, я не приезжаю в Кремль, чтобы схватить какую-то стену и увезти в Беларусь, я не претендую ни на какие-то там властные полномочия на территории России»*. Это его слова **1 августа 2003 года** на пресс-конференции для российских СМИ.

А потом были референдум 2004 года об изменении Конституции, что позволило Лукашенко баллотироваться в президенты без ограничений, и собственно выборы 2006 года, которые завершились очередной «элегантной» победой. Выходит, не утолил Александр Григорьевича жажду власти! Хотя на людях по-прежнему твердил, что сыт всем этим по горло.

*«И я уже вот так наелся. У меня уже просто нет сил. Полтора десятка лет, а может быть, и двадцать, вот эта борьба, борьба. Непрерывная борьба»*, — сетовал Лукашенко в **феврале 2007 году** в интервью российской газете «Завтра».

Правда, иногда он пытался пояснить обществу противоречивость ситуации. *«Хочу сказать откровенно: Лукашенко уже достаточно у власти, наелся ею, и вопрос в том, во имя чего я стараюсь ее сохранить. У меня всегда была одна цель — сохранить суверенитет, независимость нашей страны. Я хочу, чтобы народ нормально жил, чтобы на этом клочке земли люди чувствовали себя дома. Вот цель всей моей властной политики»*, — говорил Лукашенко **21 октября 2009 года** во время встречи с министром иностранных дел Эстонии Урмасом Паэтом.

Понятно, что, имея в жизни такую цель, Лукашенко не станет отдавать кому-то рычаги управления страной. Даже людям, которым он может доверять. Например, собственным сыновьям.

*«Забудьте эти разговоры о том, что я готовлю своих сыновей как наследников — это не Россия. По наследству власть никто передавать не будет. Я не хочу, чтобы мои дети были президентами в Беларуси. Я наелся, и моим детям из-за меня хватило этого президентства»*, — заявил Лукашенко 1 октября 2010 года в ходе пресс-конференции для региональных российских СМИ.

**«Мне достаточно власти в Беларуси. Я нормально работаю. Меня люди уважают. Да мне уже не до этого — я уже наелся этого хлеба, дальше некуда»**, — вторил он себе в интервью газете «Литовский курьер», которое было опубликовано **21 октября 2010 года**.

Наелся — не наелся, но на выборы 2010 года Лукашенко пошел без раздумий. Итог их всем известен.

В общем, Лукашенко на пенсию не собирается, и в 2015 году баллотироваться будет явно не для того, чтобы проиграть. Тогда зачем он почти полтора десятка лет повторяет, как он наелся этого президентства?

Маловероятно, что Лукашенко от власти действительно устал, а прорывающиеся в интервью откровения — его подсознательное подтверждение этой усталости. Скорее наоборот: концентрированность и абсолютная полнота власти — это тот наркотик, который позволяет Лукашенко так долго быть в форме. Кроме того, очевидно, что опьянение властью серьезно исказило мировосприятие Лукашенко. **Он уже давно не отделяет себя как личность от должности президента, да и от страны в целом**.

В таком контексте его вербальная пресыщенность властью — не более чем игра на публику в попытке **подчеркнуть священную и где-то даже мученическую суть его президентства**.

**Дмитрий СЕРГЕЙЧИК**
**naviny.by**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

# ДЗЯРЖАВА ЎДАРЫЛА БАЛЬНІЧНЫМ ЛІСТОМ

**Ўрадавая пастанова № 569, зрэзала выплаты па бальнічных лістах, асабліва моцна ўдарыла па маладых спецыялістах, у якіх перыяд выплаты страхавых узносаў складае менш за шэсць месяцаў.**

Замест **сярэднедзённага заробку** за дні хваробы ім налічваюць дапамогу ў мінімальным памеры, роўным **50 % бюджэту пражытачнага мінімуму**.

Наведваючы 8 кастрычніка ААТ «БелАЗ», **Аляксандр Лукашэнка заявіў**, што не выключае магчымасці вяртання да ранейшага механізму аплаты бальнічных лістоў . Аднак з тых часоў нічога перагледжана або адменена не было, і антыгуманны эксперымент над працоўным насельніцтвам Беларусі працягваецца. Адчуваючы недахоп грошай, *«дзяржава для народа»* вымушана адмаўляцца ад сацыяльных гарантый.

**На такіх грошах і здаровы памрэ**

Як вядома, з пачатку года ў Беларусі павялічаны дапамогі па догляду дзіцяці ва ўзросце да трох гадоў. У выніку значна ўзраслі расходы Фонду сацыяльнай абароны на гэтыя выплаты, што прывяло да недахопу сродкаў у бюджэце фонду на іншыя расходы па сацыяльнаму страхаванню.

Для вырашэння гэтай праблемы ўрад, у прыватнасці, і прыняў **пастанову № 569**, мэта якой - скараціць выплаты па бальнічных лістах. Так, павялічаны з 6 да 12 дзён тэрмін аплаты бальнічных ў памеры 80 % ад сярэдняй заработнай платы, а для разліку сярэдняй заработнай платы цяпер бярэцца перыяд не ў два, а ў шэсць месяцаў. Маладым жа спецыялістам, як адзначана вышэй, не пашанцавала асабліва.

Наўрад ці існуе статыстыка захворванняў і выплат маладым спецыялістам па хваробах, але думаю, што гэтыя сумы нязначныя для дзяржавы. Але страты для спецыяліста адчувальныя. Напрыклад, калі ў такога работніка сярэдняя месячная заработная плата складае 2500000 рублёў, то сума выплат за месяц хваробы ў агульным парадку была б 2300000 рублёў, а так ён атрымае за ўсё 523 800 рублёў, **або 17 460 рублёў у дзень**.

Прымаючы гэта рашэнне, чыноўнікі, магчыма, лічылі, што хварэць па новых правілах гэтай катэгорыі спецыялістаў стане нявыгадна і яны проста не стануць звяртацца за бальнічнымі лістамі. З апошніх сіл будуць хадзіць на працу. Пры гэтым будзе налічвацца заработная плата, адпаведна, будуць і ўзносы ад яе ў фонд, а не выплаты са сродкаў фонду. **Выгада для дзяржавы падвойная**.

Можна лічыць, пашанцавала, калі малады спецыяліст захварэў на грып або ВРВІ. Але калі хвароба больш сур'ёзная і працяглая?

Вось тады і прыйдзецца сутыкнуцца з праблемай выжывання на палову бюджэту пражытачнага мінімуму. І пры гэтым трэба не проста выжыць, але яшчэ і вылечыцца, гэта значыць несці дадатковыя, і немалыя, выдаткі. А калі ж трэба яшчэ і пагашаць крэдыты на аплату адукацыі або аплачваць здымнае жыллё?

*(скарочана)*

**Ганна Вашчыла**
**http://naviny.by**

ТАКАЯ СТАТЫСТЫКА

# БЕЛАРУСЬ – ПАЛІЦЭЙСКАЯ КРАІНА

**На 100 тысяч насельніцтва ў Беларусі прыпадае 1442 супрацоўніка МУС. Сярэднесусветны паказчык складае 300 паліцэйскіх на 100 тыс. чалавек.**

ААН рэкамендуе **222 паліцэйскіх**, а ў СССР было **214 міліцыянта** на 100 тыс. насельніцтва.

Іншымі словамі, Беларусь з'яўляецца абсалютным лідэрам у свеце па суадносінах ліку супрацоўнікаў міліцыі да насельніцтва.

Гэтыя паказчыкі **прыведзены ў тлумачальнай запісцы да двух законапраектах**, якія зарэгістраваныя ў Вярхоўнай радзе Украіне. Прапануецца істотна знізіць колькасць супрацоўнікаў Міністэрства ўнутраных спраў і органаў пракуратуры. Аўтары лічаць, што агульная колькасць ў 375 700 чалавек (або **780 супрацоўнікаў** на 100 тыс. насельніцтва) неабгрунтаваных завышаная, піша **«Коммерсант-Украина»**.

У тлумачальнай запісцы да законапраекта аб скарачэннях у МУС таксама паказваецца, што ў Італіі на 100 тыс. насельніцтва прыпадае 552 паліцэйскіх, у Балгарыі - 442, у Чэхіі - 405, Францыі - 369, Польшчы - 264, **у ЗША - 233**. Найбольшыя суадносіны пасля Беларусі зафіксавана **ў Расіі - 976**. Найменшы еўрапейскі паказчык - **у Швецыі - 195-200** на 100 тыс. насельніцтва.

**gazetaby.com/cont/art.php**

**Заснавальнік і рэдактар:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197. Газета выдаецца з траўня 2003 г.
**Падпісана да друку** 28.12.2013 у 17.20
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.